


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* *Францішак БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова

№ 36(46) • 23—29 КАСТРЫЧНІКА 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР АБ ЭКАНАМІЧНЫМ СУПОЛЬНІЦТВЕ СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ. АД ІМЯ БЕЛАРУСІ ПОДПІС ПАСТАВІЎ СТАРШЫНЯ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ПАРЛАМЕНТА С. С. ШУШКЕВІЧ. Па яго словах, у жыцці краіны пачынаецца новы этап: раней толькі разбуралася цэнтральная эканоміка, цяпер узнікла магчымасць для яе будаўніцтва. НЕ ЗРАЗУМЕЛА ТОЛЬКІ, ЧАМУ ТАКІЯ РЭСПУБЛІКІ, ЯК УКРАІНА, МАЛДОВА, ГРУЗІЯ, АЗЕРБАЙДЖАН, НЕ СПЯШАЮЦЦА ДАЛУЧЫЦЦА ДА ПАГАДНЕННЯ...

*АБ'ЯЎЛЕНА АБ ТЫМ, ШТО З ГЭТАГА ТЫДНЯ СССР ФАКТЫЧНА БУДЗЕ УТВАРАЦЦА УСЯГО З СЯМІ РЭСПУБЛІК. Тых, якія прымуць удзел у сесіі Вярхоўнага Савета краіны. Сярод іх, безумоўна, будзе і Беларусь.*

ПРАЦЯГВАЮЦЦА ПАСЯДЖЭННІ беларускага парламента. Абраны новы пракурор рэспублікі, прынятыя законы аб грамадзянстве, аб сацыяльнай абароненасці інвалідаў, заслуханы даклад Старшыні Савета Міністраў.

А. ПА СУСЕДСТВУ, НА ШЫРОКАЙ ПЛОШЧЫ, ІДЗЕ ІНШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ. ТУТ САБРАЛІСЯ НЕЗАДАВОЛЕНЫЯ, ТЫЯ, КАГО ПАКРЫЎДЗІЛІ БЫЛЫЯ І СЕННЯШНІЯ УЛАДЫ. Яны размясціліся ў сваім палатачным гарадку. Пакуль што не надта прыслухоўваюцца да іх галасоў. Таму і аб'яўлена аб новых захадах «палатачнікаў»: пачынаецца галадоўка.

*ДАСЯГНУТА ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ ПАРЛАМЕНТАМІ ДЗВЮХ СУСЕДНІХ РЭСПУБЛІК: В. ЛАНДСБЕРГІС ВЫСТУПАЕ З ПРАМОВАЙ ПЕРАД ПАРЛАМЕНЦКІМІ ДЭПУТАТАМІ У МЕНСКУ, С. ШУШКЕВІЧ — У ВІЛЬНЮСЕ.*

*«Не магу застацца стрыманай, калі ў якой-небудзь установе робіцца гвалт над роднай маёй мовай».*

Стар. 2.

*А ў Гоцку кажуць «Мігрыць»...*

Стар. 3.

*Іду на Кардэна*

Стар. 4.



## Бел-чырвона-белы ўзняты!

«Пад гербам «Пагоня» нічога не баюся...». Такімі словамі пачынаўся верш, які чытала на плошчы ў пасёлку Лясны сямігадовая Алена, вучаніца Бараўлянскай гімназіі.

А пачалося ўсё раней, калі на сесіі Бараўлянскага сельскага Савета была падтрымана прапанова сяброў мясцовай суполкі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады аб правядзенні ўрачыстага мітынгу, прысвечанага ўзняццю дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь над будынкам сельскага Савета. Была вызначана дата — 1 кастрычніка 1991 года.

Каля 400 жыхароў пас. Лясны прыйшлі на мітынг. Як добрую прыкмету ўсе ўспрынялі тое, што перад пачаткам мітынгу неба праяснела і засвяціла сонца, хаця на працягу дня некалькі разоў ішоў дождж.

З уступным віншавальным словам выступіў М. І. Хадасевіч, член Цэнтральнай Рады БСДГ. Затым настаўнік Бараўлянскай школы-гімназіі І. А. Будай зрабіў кароткі гістарычны агляд развіцця нацыянальнай сімволікі ў Беларусі.

І вось пад гукі песні «Спадчына» вучні, адзетыя ў нацыянальныя касцюмы, выносяць дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь — бел-чырвона-белы. Чуюцца апладысменты. На імправізаваным канцэрце прагучалі вершы беларускіх паэтаў, дзіцячы танцавальны калектыў «Светлячок» (кіраўнік А. А. Суцько) выканаў танец «Ляснянская задорная». Вакальная група (кіраўнік І. В. Шакава) спявала беларускія народныя песні.

З дапамогай суполкі ТБМ быў арганізаваны продаж значкоў і вымпелаў з нацыянальнай сімволікай, літаратуры на беларускай мове.

Георгій ГАЦКЕВІЧ,
старшыня Бараўлянскай суполкі БСДГ, дэпутат Бараўлянскага сельскага савета Менскага раёна.

## Вывучайце гісторыю рэспублікі

Распачаў працу Народны універсітэт «Гісторыя і культура Беларусі» пры Менскай гарадской радзе БНФ «Адраджэнне».

Праграма прадугледжвае асвятленне важных момантаў нашай гісторыі, якія хвалююць грамадства, абуджанае да новага культурнага будаўніцтва, да адраджэння Бацькаўшчыны. Сярод праблемных лекцый — этнагенез беларусаў, Полацкае княства, дахрысціянская культурная спадчына. Вялікі раздзел прысвечаны перыяду Вялікага Княства Літоўскага.

Лектары народнага універсітэта — вядомыя спецыялісты, выдатныя знаўцы нашай гісторыі, супрацоўнікі навукова-даследчых устаноў беларускай сталіцы. Сярод іх: Г. Штыхаў, М. Чарняўскі, У. Арлоў, М. Ермаловіч, М. Ткачоў. Уваход платны.

ВАСІЛЬ БЫКАЎ: Наша нацыя, калі мець на ўвазе нават тую вайну, не мела патрэбы ў героях. Герояў хапала, але ўся справа ў тым, як адносіцца да іх.

*Працяг справаздачы аб сустрэчы Васіля Быкава ў клубе «Спадчына» чытайце на 2-й стар.*

*Але!* *Але!*

## «Сюрпрыз» «Чырвонай змены»

Чаго толькі не робяць зараз газеты і часопісы ў барацьбе за чытача. Шукаюць багатых спонсараў. Самым нечаканым чынам рэкламуюць свае выданні. Заінтрыгавала і ўсхвалявала чытачоў «Чырвоная змена» абвесткай пра «прыемны сюрпрыз», што чакае іх у наступным годзе. Забягаючы наперад, скажу, што апошнім часам газета змясціла шмат вострых надзённых матэрыялаў, у тым ліку і ў абарону роднай мовы. Выходзілі старонкі «Роднага слова», якія рыхтуе малады празаік Уладзімір Міхно, шмат публікавалася твораў маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў — сяброў літаб'яднання «Крыніцы». Тым больш здзіўляе рэкламная абвестка газеты. Цытую: «Прыемны сюрпрыз чакае тых, хто выпрашыў падпісацца на «Чырвоную змену» ў 1992 годзе. Пры жаданні вы атрымаеце магчымасць адначасова падпісацца і на серыю «Бібліятэка жаночага рамана» (на рускай мове), якую будзе выдаваць газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь». Дванаццаць бестселераў сусветнай літаратуры ў пятнаццаці тамах перакладзены ў нашай краіне ўпершыню. Іх агульны кошт — 172 рублі...»

Як бачым, «Чырвонка» са сваім дадаткам мае шанц трапіць на ўсесаюзны газетна-часопісны рынак. Вось толькі якую паслугу яна робіць Рэспубліцы Беларусь?

Канечне, сама ідэя дадатку вартая сур'ёзнай увагі. Але чаму б яе не здзейсніць з клопатам пра беларускае слова? Чаму, для прыкладу, беларускай маладзёжнай газеце не выдаць у дадатку той жа цыкл «жаночых» раманаў, але па-беларуску?

У гэтым сэнсе здзіўляе і дзейнасць фірмы «Белая Русь». Сама назва з нейкім незразумелым падтэкстам. Не «Беларусь», а нешта іншае? Скажам, «расійскі» варыянт? Загадка. Але ці не разгадваецца яна, калі ўважліва прачытаць выдавецкі праспект новай фірмы?

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

